Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту.

№. 28 Вільня, Серада, 28-га ліпня 1926 г. Год I.

## „Сялянская“ Польшча і беларусы.

Ураз-жа пасьля маёвага перавароту Польшча Пілсудскага ў сваей замежнай палітыцы выразна пайшла ў кірунку *збліжэньня з Англіяй*.

Хто памятае, якой сымпатыяй абдорывала Пілсудскага англійская буржуазія, якая бачыла і бачыць у яго асобе *непрымірымага ворага бальшавізму і Саюзу Сацыялістычных Радавых Рэспублік*, для таго нямашака нічога дзіўнага ў гэтым новым палітычным курсе Польшчы—на Англію. Нямашака нічога дзіўнага і ў тым, што радавая прэса ўбачыла ў гэтым курсе *небясьпеку для міра на Усходзе* і выразна пісала, што Англія хоча выкарыстаць Польшчу дзеля арганізацыі *проці—радавага блёку* сумежных з СССР дзяржаў—ад Балтыцкага да Чорнага мора.

Новы міністар замежных спраў Польшчы, п. Залескі, надовячы ў соймавай камісіі *рашуча запярэчыў* заявам радавых газэт аб ваенных плянах Польшчы. Хто ў гэтым выпадку гаворыць праўду, ня будзем тут судзіць, — тым балей, што ў польска-англійскім збліжэньні мы бачым для ўсіх работнікаў Польшчы наагул і для беларускага сялянства асабліва йшчэ другую — мо' больш небясьпечную пагрозу, чым навет вайна! Пагроза гэтая крыецца ў *эканамічных падставах* збліжэньня паміж Польшчай і Англіяй.

Вось-жа, імкнучыся да эканамічнага Саюзу Польшчы з Англіяй, п. Пілсудскі стаіць на тым пункце гледжаньня, што Польшча ніколі ня здолее самастойна разьвівацца, як край фабрычна-прамысловы. *Польшча мусіць астацца выключна сельска - гаспадарскай дзяржавай.* Значыць, ей трэба мець саюзьнікаў, які дастаўляў-бы ей усе неабходныя фабрычныя вырабы. Такім саюзьнікам п. Пілсудскі й хоча мець Англію, каторая за аддачу ёй польскіх рынкаў збыту гатова сваім крэдытам дапамагчы Польшчы ў яе фінансавых клапотах.

Проста і ясна!

Проста і ясна на славах, але ня так проста на дзеле. Бо ж—як ні як — у Польшчы прамысловаць істнуе і можа істнаваць, ня гледзячы на тое, што *польская буржуазія* ў гэтай галіне краёвай гаспадаркі *збанкрутавала*. Расчыненьне дзьвераў Польшчы для англійскай вытворчасьці будзе для польскай прамысловасьці йшчэ больш *забойчым*, як няўдалыя гаспадары буржуазіі: Польшча проста пераратворыцца ў англійскую калёнію, якую замежны капітал будзе выкарыстываць, як і кожную іншую калёнію, спаганяючы з барышом „ласкава“ даваныя Польшчы пазыкі. А першым вынікам гэтага будзе тое, што да паўмільёна беззработных, якія ёсьць сяньня ў Польшчы, далучыцца гэтулькі-ж новых, пазбаўленых працы й заробку на бацькаўшчыне.—Што-ж станецца з гэнымі людзьмі і іх сем'ямі?

Ведама, ліквідацыя самастойнае польскае прамысловасьці пры ўзмацненьні эканамічна-гаспадарчых уплываў Англіі адбывалася-бы ня зразу, а паступова. І выкіданыя з зачыняных фабрык работнікі маглі-бы ў меру гэтага — пры нармальных варунках — *эміграваць* у чужыя староны. На жаль, на ўсенькім сьвеце цяпер эміграцыя вельмі абмяжована, і граніцы Амэрыкі. найбольш прымаўшае раней нашых эмігрантаў, цяпер блізу *зачынены*.

Дык не бяда! Пан Пілсудскі мае лек і на гэта, — і вось тут пачынаецца тое, што прадстаўляе *страшную пагрозу беларускаму народу—перадусім беларускаму сялянству.*

П. Пілсудскі і тыя „сялянскія“ партыі, якія хацелі-бы зрабіць з Польшчы выключна *край хлебаробаў*, маняцца ні больш ні менш, як *перасяляць беззработных з польскіх прамысловых цэнтраў на беларускія і ўкраінскія „Крэсы“, ды надзяляць іх тут беларускай і ўкраінскай зямлёй*. Гэтак аўтары такога праекту забясьпечаньня польскіх беззработных зразу-ж дасягнулі-бы трох мэтаў: перадусім узмоцнілі-бы ў Заходняй Беларусі й Зах. Украіне польскі *народны* элемэнт, якога тут дагэтуль блізу зусім ня было і далей — лягчэй *апалячываліся-бы мяйсцовыя беларускія і ўкраінскія сялянскія масы*; урэшце—гэтыя-ж масы аканчальна былі-бы *зруйнаваны эканамічна*, бо з падзелам між новымі асаднікамі дворных зямель згінула-бы магчымасьць заробкаў у дварох для нашых малазямельнікаў і беззямельных сялян, дый гэтыя сяляне былі-бы аканчальна пазбаўлены магчымасьці пашырыць сваё маламерныя, жабрацкія гаспадаркі ..

Якая доля чакае новых прымусовых асаднікаў-рабочых, каторыя ня маюць нічога супольнага з зямлёй і сельскай гаспадаркай, — кожын лёгка зразумее. Але доля беларускага сялянства ў „сялянскай“ Польшчы—йшчэ горшая: нам пагражае і *эканамічнае і нацыянальнае вынішчэньне*.

Вось дары англійскіх „данайцаў“. Вось тое, што суліць нам польская буржуазія з сваім новым павадырам і абаронцам—п. Язэпам Пілсудскім. Вось спосаб, які аўтар маёвага перавароту маніцца захаваць у Польшчы „сацыяльную раўнавагу“.

## Лодзкія беззработныя—на беларускую зямлю!

Польскія газэты пішуць:

У Лодзі ў гмаху ваяводзтва адбылася надовячы нарада пад маршалкоўствам віцэ-ваяводы і з учасьцем афіцыяльнага прадстаўніка міністэрства зямляробства. На гэтай нарадзе абгаварывалі пытаньне аб тым, каб лодзкіх безработных „асадзіць“ на ральлі.

Нарада прызнала, што дзеля гэтае мэты найлепш выкарыстаць „Усходнія Крэсы“, дзе ёсьць даволі вялікіх маёнткаў, якія падпадаюць пад закон аб парцэляцыі. Дык вось—замест дзяліць гэныя маёнткі між мяйсцовымі сялянамі (—беларусамі ды украінцамі!)—лепш высяліць туды безработных з Лодзі.

Газэты наказуюць, што галоўны інспэктар пры міністэрстве зямляробства абяцаў гэту справу падтрымаць у міністра. Ваяводзтва энэргічна занялося апрацоўкай патрэбных матар'ялаў, якія будуць пасланы міністэрствам скарбу, зямляробства й зямельных рэформ.

Гэтая дзікая думка польскае буржуазіі, якая банкруцтва сваей уласнай гаспадаркі хоча пакрыць коштам беларускага й украінскага сялянства, абурыла навет наагул зусім ня прыхільна настроеных да нашых працоўных — віленскіх польсхіх „дэмакратаў“ з „Kur. Wil.“. Вось, што піша газэта аб меркаваньнях лодзкай ўлады й фабрыкантаў:

„Гэта робіцца ў Лодзі, каб прыслаць нам на Крэсы безработных — беззямельных і малазямельных. А што робіцца ў нас, каб даць кусок хлеба нашым безработным—беззямельным і малазямельным? У нас адбудзецца 27-га гэтага месяца ў Вільні, 28-га — у Сьвянцянах і 29-га ў Браславі набор малазямельных і беззямельных работнікаў, фаховых зямляробаў, **дзеля выезду ў Францыю**“!..

Але мала таго, што польская буржуазная ўлада, каб польскага работніка перарабіць на зямляроба ў чужой яму беларускай зямлі, хоча беларускага селяніна перарабіць на работніка — у таксама чужой яму Францыі. Справа ў тым, што і ў Францыі—у сувязі з пераживаным ею крызісам — пачынаецца ўжо безрабоцьце, і б. міністар Кайо ў аднэй з сваіх апошніх прамоваў у парляманьце заявіў, што—каб змагацца з безрабоцьцем—францускі ўрад у першую чаргу маніцца выселіць усіх чужаземных работнікаў! Куда-ж тады падзенецца наш эмігрант, якому дома ня будзе месца да працы, бо гэтае месца займуць насланыя з Польшчы безработныя?!...

## „АМНІСТЫЯ“.

Усё мацней і мацней чуваць голас народу, які дамагаецца **амністыі для палітычных вязьняў.** Нялічаныя мітынгі выносяць рэзалюцыі з трэбаваньнем амністыі. На рукі дэпутатаў вёска шлець свае прыгаворы і дамаганьні звальненьня з вастрогаў барацьбітаў за волю працоўных.

Як жа адносіцца да гэтых дамаганьняў урад п. п. Бартля-Пілсудскага?

З соймавых сфэр нас інфармуюць, што ўрад маніцца даць амністыю палітычным вязьням, **але ня ўсім агулам**, а індывідуальна—паадзінакім вязьням, якіх прызнае годнымі звальненьня... **вастрожная адміністрацыя!** Гэтак звальненьню падлягалі-бы перадусім тыя, што здалелі заслужыць сабе „ласку“ турэмшчыкаў!

Ня гэтага трэбуе народ! І калі так хоча разьвязаць справу амністыі ўрад, дык няхай тым гучней разьлягаецца трэбаваньне народу: **Амністыя агульная — для ўсіх палітычных вязьчяў, бяз ніякіх вынятнаў!**

## Адступленьне на усім фроньце!

Дзень 22 ліпня с. г. ў гісторыі польскага „парлямантарызму“ будзе памятны на вечныя часы.

Ня гледзячы на тое, што пры другім чытаньні ў Сойме ўрадавых законапраектаў закон аб права прэзыдэнта самастойна, без спэцыяльнага дазволу Сойму, выдаваць дэкрэты з моцай закону—быў адкінены, — пры трэцім і апошнім чытаньні праектаў у чацьвер, 22 ліпня, Сойм гэны адкінены закон **прыняў**. Гэтак, апрача спэцыяльных паўнамоцтваў, дадзеных Соймам ураду Бартля-Пілсудскага, **прэзыдэнт мае права** ў часе паміж роспускам аднаго Сойму і склікаеньнем другога **выдаваць—шляхам дэкрэтаў — законы ў-ва ўсіх галінах** дзяржаўнага жыцьця, апрача: зьмены канстытуцыі, бюджэту, набору рэкрутаў, дзяржаўных пазык, падаткаў і манаполіяў, кантролю над дзяржаўнымі даўгамі, гандлёвых і мытных умоваў, міру й вайны, канстытуцыйнае адказнасьці міністраў і выбарнага закону ў Сойм і Сэнат.

Гэтак Сойм, выбраны народам **дзеля выдаваньня законаў**, самахоць **зрокся гэтага права ў** вельмі значнай часьці яго — **на карысьць выканаўчае ўлады**,—ня гледзячы на тое, што народ, выбіраючы дэпутатаў, даваў ім мандаты на законадаўчую працу асабіста—не даючы ім права аддаваць гэтыя мандаты—ў **цэласьці ці ў** часьці—другім асобам!

Падаем тут назовы партыяў, якія галасавалі за гэты пункт і за ўсе ўрадавыя законапраекты аб зьмене канстытуцыі: эндэкі, хрысьціянска-нацыянальная партыя, хадэкі (хрысьціянская дэмакратыя), пястоўцы, работнікі-нацыяналісты (Н. П. Р.), каталіцка-народная партыя, **сялянская партыя** (Домбскага і Брыля), **„Клюб Працы“** (Тугут, Хамінскі і інш.) і **„Вызваленьне“**.

Няхай народ ведае, хто **надужыў яго даверыя!**

## У Польшчы.

### Шыбкая разбудова ваеннай прамысловасьці.

У Варшаве адбылася—пад старшынствам самага прэзыдэнта Рэспублікі — канфэрэнцыя міністраў і генаралаў у справе шыбкай разбудовы ваеннай прамысловасьці ў Польшчы. Пасьля дакладу генарала-спэцыяліста абгаворана справа выдаткаў на разбудову ваенных фабрык **яшчэ ў гэтым годзе...**

### Камунікацыя з ССРР.

У сваей прамове ў камісіі міністар замежных спраў даў цікаўныя даныя аб паляпшэньні зносінаў Польшчы з ССРР. Ён казаў, што ў сувязі з павялічэньнем тавара-абмену між абыдвума краямі паляпшаецца і камунікацыя між імі. За апошні год шмат чаго зроблена ў галіне чыгункавай камунікацыі: адчынены новыя пагранічныя пункты, палепшаны спосабы перавозкі людзей і тавараў. У блізкім будучым мае быць адбудавана штодзеннае курсаваньне беспасрэдніх цягнікоў між Варшавай і Масквой, што зьяўляецца найвыгаднейшым ды найкарацейшым шляхом між Захадам і Усходам. У апошнія месяцы пастаўлена на чар-

